# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

№ 9





Волей-бол

Фото Т. Бунімовіч.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

10 мая 1930

№ 9

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41.

Ідуць са школы

Фото Ўл. Семянякі



Апавяданьне М. ПАСЬЛЯДОВІЧА

Малюнкі Г. КІПНІСА




Мы сядзім на вывезеным зімой бярвеньні ў колгасе „Полымя". Нас сем чалавек. Пасьля вячэры, пакуль ісьці адпачываць ад цяжкага ворыва, мы сабраліся пакурыць, пагаварыць. Зьверху над галовамі сьвішчуць крыльлем качкі. Яны ляцяць на залітыя вадою нізіны. Там іх тысячы. І таямнічы гул—гэта ад качак: ад іх крыку, ад лапатаньня крыльлем па вадзе.

— От яшчэ жыве стварэньне!—гаворыць старэйшы брыгады ратаеў Лявон Сянько. Цяпер вецер гоніць на нас гул бурлівага жыцьця балота.—З году ў год прылятаюць сюды, гнезьдзяцца і плодзяцца. А для чаго, каб хто спытаў?

Ён сказаў гэта і змоўк. Павольна цягнуў сіплым горлам дым тутуню. Бляск агню папяросы быў бляскам яго вачэй у гэты цёплы веснавы вечар.

— Ты няпраўду кажаш, Лявон. Тое, што жыве, што плодзіцца на балоце,—наша. Мы павінны глядзець, каб усё там было ў парадку, як і тут у гаспадарцы нашага колгасу. А калі і там усё пойдзе ў раздроб, як некалі жылі мы на вузкіх палосках, тады дабра ня будзе. Наляцяць гураганы, спалошчуць, равінкі не пакінуць...

Сьцяпан Каланіца, што выказаў гэтае, ня курыць. Таму і нельга бачыць выраз на яго твары. Але ўжо некалькі галасоў перабіваюць Сьцяпана.

— Спалошчуць? А ты навошта?..

— Ты-ж самы глаўны.

— І аграном з ім.

— Не! Той другім вокам глядзіць.

— Мікола Андронавіч на другое гне.

— Яму, каб будачку на градзе паставіць.

— А летась ён спрабаваў.

З усяго гурту людзей, якія сядзелі на бярвеньні, толькі адзін Лявон Сенька быў не паляўнічы. Ён з пагардаю глядзеў на людзей, якія здатны праз увесь дзень таптаць лапці, лазіць няма-ведама чаго па дрыгве, шукаючы якую балотную птаху, або зайца ў полі.

— Эх, вы стральцы!—зноў пачаў Лявон сваю споведзь.—От вы тут сэймуеце, а там на балоце мо' хто поўзае, выглядае дзе будку паставіць, каб ссадзіць цецярука. Я часьцяком чуў раніцамі стрэлы...

Мы зразу паднялі галовы.

— Ты мо' ведаеш, дык скажы! Вясной паляўнічыць няможна.

— Гэта вам.

— Усім!

— А хто страляе раз по разу?

— Дзе?

— Там, на градзе.

Чарвяк падазронасьці заварушыўся ў кожным з нас. Няўжо раніцамі, калі патрывожаны цемянью дзень узьнімаецца над зямлёю, хто-небудзь з нас імчыць туды на балота, дзе ў лахманох веснавога туману гудзе каханьнем цецярукоў зямля, дзе, чуючы непераможны прызыў паляўнічага, трасца трасе чалавека. Чалавек тады траціць сваё аблічча і розум. Чалавек тады падобны на разьюшанага зьвера. І ў зьвярынай сьлепасьці з нейкай асалодаю ціснe за спуск у сваёй стрэльбе. Павольна плыве ў паветры пер'е сьмерці. Тады чалавек хутка бяжыць па куп'і балота. Бярэ тое, што хвіліну таму назад бурдзівай песьняю славіла вясну жыцьця. Славіла тое, чаму рад бывае чалавек пасьля шэрых дзён зімы. Калі ажывае зямля і сокам сваіх грудзей корміць расьліны.

І тады недзе ў цемені чалавечага розуму пачынаецца прасьвятленьне. Шкода загубленага жыцьця ў гэтую пару году. Шкода жыцьця, якое магло радзіць да восені не адно жыцьцё... Але раскудлачана прыгожае пер'е і халаднее цела. У горле птушкі застыла песьня жыцьця. А можа гэта яна, песьня, сочыцца кроўю праз краі дзюбы, чырвонымі кроплямі засяе заімшалае балота..

— Хто з нас ходзіць? Хто страляе?

Колькі было ў нас спрэчак пра веснавое паляваньне. На раённым сходзе то пастанаўлялі, то зноў дазвалялі веснавое паляваньне пакуль ня быў выдадзены закон пра забарону. Дзічына зьнікала, як сьнег увесну. А тут яшчэ, быў прыехаў нейкі малады настаўнік Сямён Зьбярыцкі. Загадаў вучням, каб зьбіралі для колекцыі яйкі дзікіх птушак. А гэтыя пяцьдзесят дзяцюкоў як рынулі на рэчку і ў лес і за тры дні так пастараліся, што загурасьцілі яйкамі ўсю школу. І качак, і варон, бакасоў і цецярукоў,—усё ссыпалі ў адну кучу. Усе гнёзды павываварачвалі нашы колекцыянэры. І калі надышоў час паляваньня—голай сіратою сустрэла нас балота. Сабакі безнадзейна боўталіся па выжарынах, сапліва нікалі па журавіньніку.

Усе нашы качкі і цецярукі пайшлі на колекцыю! З таго часу мінула чатыры гады. Шмат чаго перамянілася ў нас. З вузкіх паасобных палосак, скінуўшы цяжар кулацкай эксплёатацыі, зрабілі мы адно агульнае поле. 120 гаспадарак праводзяць аднэю сям'ёю ўжо трэцяе лета. Сьцяпан Калапіца, стары паляўнічы, пачаў дамагацца парадку і ў паляваньні.

— Хіба мы ня здужаем і з гэтым справіцца? Абы ахвота была!



Пры колгасе організаваўся паляўнічы гурток. Організавалі ўдарную брыгаду, каб вылавіць усіх браконьераў. Праз месяц ужо ўсе стрэльбы былі зарэгістраваны. Яшчэ перад гэтым, калі ў нас ня было колгасу, Сьцяпан пасвайму жаданьню схадзіў да настаўніка Зьбярыцкага і сказаў, што калі колекцыянэры будуць працаваць такім парадкам і на далей, дык ён, Сьцяпан, прыме іншыя меры. А якія меры—даведаецца той, хто трапіцца Сьцяпану на сенажаці альбо каля рэчкі ў часе гнездаваньня. Сьцяпан ня будзе глядзець, які начальнік яму пападзецца.

Другім летам дзічыны было больш. Плішчай і чарот каля рэчкі кішэлі жыўнасьцю. Але касавіца наступіла рана. Пад выглядам „пасьцерагчы адзеньне" касцы бралі сабак. Увесь дзень, пакуль хадзілі ля рэчкі касцы, сабакі латашылі ў кустох, цягалі неапераных крыжаноў і цыранак.

Сьцяпану ня было тады ўтаймаваньня. І ня супакоіўся ён да таго часу, пакуль усе сабакі не апынуліся на прывязі, а злосныя браконьеры ня былі аштрафаваны.

Цяпер ужо ўсё супакоілася. Пад неаслабным наглядам колгаснай ячэйкі паляўнічых, з кожным годам множылася дзічына. У мінулую вясну ніводны стрэл не парушыў балотных нізін! Затое, калі надышоў час паляваньня—здабыча загаварыла супроць веснавога адстрэлу.

І раптам...

Нехта зноў за старое!

— Васіль,—рве голасам цемень Сьцяпан,—заўтра да работы пройдземся на балота. Злавіць трэба...

Я нічога не гавару. Сьцяпан ведае, што я з ім згодзен.

Няёмка разьвітваючыся, мы разыходзімся. Ужо ня сьвішчуць крыльлем качкі: позна. На захадзе застыла сьвятло мінулага дня. Непарушным яно пройдзе праз далёкую поўнач. Новы дзень народзіцца з гэтага слабага сьвятла і гарачае сонца пырсьне мільёнамі залатых іскраў на росную зямлю.

— Мікола Андронавіч, чаму пра цябе была гаворка?..

* * *

Яго прыслалі да нас аграномам. Чалавеку—45 год. Раней працаваў па канцылярыях. Невядома, ці засталося ў яго галаве што-небудзь ад агрономічнай школы. Толькі карысьці нам з яго было, што з казла малака. З сабою ён навёз у наш колгас нейкіх старых чамаданаў, абшарпаных патронташаў і 2 стрэльбы цэнтральнага бою.

Наша машына для кіданьня талерачак яму не падабалася. Ён неяк адмыслова пакруціў носам і сказаў:

— Глупства ўсе гэтыя цацкі.

— Чаму?

— Дзяшовенькае. От каб галубоў біць!

А калі хадзіў з лягавым, дык



цягнуў з балота за раз па дзесяць, пятнаццаць цецярукоў! Мы ніколі не адважваліся біць больш 3—4 птушак за дзень. Мы клапаціліся разумна, бяз зьнішчэньня, выкарыстоўваць нашу паляўнічую гаспадарку. Каб і ў нас былі такія вывучаныя сабакі, мы-б, дабавіўшы шалёную зайздрасьць несьвядомых, у адзін дзень выпаласкалі-б усю зьвярыну. І такімі невукамі мы былі раней, калі, раз дарваўшыся, білі, колькі ўлазіла ў мяшок.

Калі аднаго разу Мікола Андронавіч варочаўся перагружаны дзесяткам цецярукоў, Сьцяпан Каланіца супыніў яго каля аборы.

— Таварыш аграном. Ці не залішняе вы перагібаеце палку?

— Вы пра што?

— Ці не хапіла-б вам і двух-трох цецярукоў? Вы ўжо запошні тыдзень, колькі я ведаю, 35 цецярукоў абсадзілі.

— Ну дык што?

— Трэба больш асьцярожна. Мера патрэбна.

— А калі я, будучы ў горадзе мала страляў?

— Гэта ня значыць, што цяпер, дарваўшыся да дзічыны, вы павінны яе зьнішчаць, не пакідаючы на развод. Гэта апраўданьне старых чыноўнікаў. У нас людзі ня жывуць спэцыяльна ад паляваньня. Таму нельга дапусьціць, каб паляўнічы, хоць ён і 30 год ня быў у лесе, дзесяткамі выбіваў дзічыну ў адзін дзень. А ён яшчэ мог паехаць адсюль і нічога не забіць. І жывы-б астаўся. А тое, што ён за дзень вытапча дзе-небудзь у Пералогах ці Брадох цэлы вывадак—пахне шкодніцтвам. Тады ўжо седзячы ў цягніку, ён супакойвае сваё драпежніцкае сумненьне тым, што „я рэдка бываю на паляваньні, таму і сёньня нічога лішняга не забраў. Другія больш выбіваюць". Па-мойму, трэба зрабіць якое-небудзь абмежаваньне адстрэлу дзічыны...

Сьцяпан успамінаў настаўніка Зьмітрака Хаўстовіча з суседняй вёскі Слабодкі. Гэты малады хлапец дапамог організаваць колгас „Полымя". Гэта ён, Хаўстовіч, не дасыпаў ночы, разам з актывістымі колгасу складаў плян працы. А калі трэба было, хадзіў араць, баранаваць. Хаўстовіч, а ня хто іншы дадумаўся да організацыі дзіцячага колгасу пры сваёй школе. У гэтым колгасе будучыя комунары на практыцы бралі веды, як трэба гаспадарыць.

І колькі Сьцяпан ні стараўся параўнаць Міколу Андронавіча разам з Хаўстовічам—нічога ня выходзіла. Хаўстовіч быў жыцьцё бурлівае, патрэбнае грамадзкасьці як вада, як паветра чалавеку. Мікола Андронавіч—старэнькая, запэцканая анучка, мала каму патрэбна ў гэты час будаўніцтва.

Ён баяўся выйсьці на поле. Усе яго аграномічныя парады даваліся колгасьнікам у праўленьні. Шуму работы ён баяўся, як курыца баіцца вады. Адно на што ён быў здатны — гэта бясконца спрачацца пра паляваньне. Аднекуль выпараў замызганыя кніжкі па гэтай справе. Нават склаў свой плян „пра рэн-

табельнасьць і патрэбу веснавога паляваньня" і меркаваў яго паслаць вышэйшым органам на разгляд. Гэты плян ён, быў, прачытаў Хаўстовічу і Сьцяпану. У пляне было шмат вытрымак з даўнейшых выдатных паляўнічых пра паляваньне, як дзеяньне, якое надае чалавеку шляхецтва. Хаўстовіч праслухаў яго і сказаў толькі адно:

— Гніль! Лепш спаліце ўсё гэта ў печы.

* * *

Усё больш і больш разгараецца полымя на ўсходзе. Цемень схамянулася і пасьпешна адступае на захад. Яшчэ крычаць драчы. Патрывожаныя холадам раніцы іржуць жарабяты на лузе. Агонь начлежнікаў патух і толькі шэры дым коса ідзе ад зямлі, растваняецца ў веснавым тумане.

— Халаднавата—кажу я.—Чаму ты не адзеў што цяплейшае.

Васіль крочыць адмерана. У шэрым змроку раніцы бачу я таварыскую ўхмылку.

— Я не адчуваю холаду. На мне-ж ватоўка.

Мы ідзем каля балотняга хвойніку. Недзе за градою гэтага нізенькага лесу чуваць шыканьне цяцярука, адзін, два, тры разы. Потым павабнае балбатаньне палілося як журчэньне вады ў глыбокім, нагрэтым сонцам сьнезе.

— Ты хутка паедзеш ад нас,—гаворыць Сьцяпан.—Зноў возьмешся на заводзе за кавальскі молат.

— 15-га будзе ўжо два гады, як я жыву з вамі.

— Працуеш, Васіль, а ня жывеш толькі.

— Можа і працаваў. Цяпер мяне зноў клічуць на завод.

— Ты-ж не забывайся на нас. Прыяжджай. Пішы.

— Ты мяне ведаеш...

Раптам уздрыгануўся спакой раніцы. Тугі гул пайшоў па зямлі. Яшчэ раз загудзела зямля. І пасьля на нізінах трывожна закігікалі кнігаўкі.

— Дзе?

— На градзе!

— Васіль, бяжым!

Мы падаемся нацянькі праз балота. Вада пырскае з пад ботаў на чорнагалоў. З боку ад нас падняўся заяц і кінуўся ў густы багун.

Мы ня супыняліся. Шкода было выпусьціць чалавека, які груба парушаў законы ўраду, законы прыроды. Патрывожаныя стрэламі вясны прытаіліся цецярукі.

Ужо чырваньню сонца пачаў прыбірацца ўсход. Патанула ў сьвятле раўвяня зара. Абрыўкі туману блукалі па ўзьбярэжжы лесу. І праз гэты туман убачылі мы будку з яловых лапак. Яна стаяла на ўзгорку, што падыходзіў да балота.

— Глядзі! Ля будкі нехта ляжыць.

— Зойдзем з другога боку. Каб ня бачыў.

Мы асьцярожна падыйшлі да яловай кучы. Асьцярожна пачалі абыходзіць да таго боку, дзе была відаць руля стрэльбы. Яна застыла ў непарушнасьці, як і чалавек, што трымаў стрэльбу.

— Гад!—крыкнуў Сьцяпан.—Што ты робіш!..

У будцы ніхто не варухнуўся. Тады мы схапілі ў ахапак ельнік і кінулі ў бок. Кінулі і сталі слупам.

— Мікола Андронавіч!

Ён быў няжывы. Гатовы да стральбы ён так і застыў ад нечаканай сьмерці. Нават вочы былі адкрыты, толькі левая брыва крыху была заплюшчана.

Мы глянулі навокал. Крокаў за 50 на купіне сядзеў цецярук. Зьбіраўся такаваць. Мы чакалі пакуль пачнецца песьня. Потым Сьцяпан крыкнуў:

— І ён акалеў! Не варушыцца.

Гэта было толькі чучала. Шкурка з пер'ем, зьнятая з птушкі. Штука, якую прывёз да нас Мікола Андронавіч. Ад будкі былі пратаптаны ва ўсе бакі сьцежкі. Гэта Мікола Андронавіч ставіў свайго „цецярука", каб потым страляць як па жывой дзічы.

Сьцяпан моўчкі паглядзеў на разбураную будку, на няжывога Міколу Андронавіча, на цецярука—злосна плюнуў і сказаў:

— Хадзем! Хутка на работу выходзіць!..

Усяго і гаворкі было, пакуль мы ішлі ў колгас. Пакуль сонца шчырай жменяю сыпала на росную зямлю залатыя іскры...

* * *

Тым, як ён сказаў, ніхто ня быў зьдзіўлены. Наш раённы доктар, пасьля дасьледваньня прычыны сьмерці, сказаў:

— Слабенькі быў чалавек Мікола Андронавіч. Ня вытрымаў вялікай радасьці. Разарвалася сэрца гэтага выдатнага дзеяча ў паляваньні...

...Зноў гудзе вясною зямля. Толькі супакоіліся балотныя нізіны. Рэдка калі сьвішчуць крыльлем качкі; на балотах яны прыціхлі ў сваіх гнёздах, каб пад восень зашумець крыльлем тысяч маладых качак.



# ПЕРШАМАЙСКІ ПАРАД У МАСКВЕ



„РУСС-ФОТО"

КРАСНАЯ ПЛОЩАДЬ •

# УДАРНАЯ ЧЫРВОНАЗЬМЕНАЎСКАЯ

## НАРЫС • БАЦЬВІНЬНІКА

УАДЗІН з дзён сакавіка, у 2-гі райком комсамолу прыйшоў чумазы нізкарослы хлапец—сакратар комсамольскай ячэйкі 1 півавaранага заводу.

Яго зьяўленьне ў райком у час работы (гэта было пасьля абедзенага перапынку) выклікала зьдзіўленьне ў работнікаў РК.

Як гэта, у час работы ходзіш у райком?

Адказ быў кароткі—з прычыны зачыненьня аднаго аддзяленьня на заводзе, я зволен і хачу пайсьці на перакваліфікацыю.

Праз некалькі дзён Хацін разам з дэмобілізаваным чырвонаармейцам комсамольцам Рэўдо атрымалі пуцёўкі на завод „Чырвоны Мэталісты".

* * *

Завод „Чырвоны Мэталісты", куды былі накіраваны на перакваліфікацыю Хацін і Рэўдо, у горадзе і ва ўсёй Беларусі на сёньнешні дзень вядомы, як завод, які на працягу паўтара года пяцігодкі ні на водзін квартал ня выканаў на ўсе 100 процантаў прамфінпляну.

Комсамольскі колектыў быў таксама вядомы, як колектыў, які пабальшавіцку не організаваў і не кіраваў ударнымі брыгадамі і, наогул, стаяў у баку гаспадарчага жыцьця заводу.

Аб гэтым сакратар РК гаварыў Хаціну, накіроўваючы яго на завод.

Хлопцы былі накіраваны ў ліцейны цэх.

Памяшканьне ліцейнай знаходзіцца ззаду астатніх цэхаў заводу. Недалёка ад ліцейнай раскінуты вялізарныя кучы рознага жалезнага лому. Крыху далей, падымаючыся ў гару, роўнымі лініямі ляжаць у штабелях чыгунныя балванкі.

Ля самага ўваходу ў цэх, шчыльнымі радамі стаяць рознага памеру шасьцяронкі для малатарань, арфаў і конных прывадоў; крышкі для цагельных печак і ляжаць невялікія кучы браку.

У цэху замазаныя фігуры, схіліўшыся каленямі на чорную зямлю, адфармоўваюць розны паўфабрыкат, які перадаецца пасьля адліўкі ў абрубку і пасьля,—у мэханічны цэх для абточваньня і потым ідзе ў зборачны цэх.

Над галавамі на жалезных бэльках вісяць электрычныя пад'ёмныя машыны, пры дапамозе якіх формаўшчыкі падымаюць цяжкія жалезныя пакрывалы-апокі, якімі прыкрываюцца ніжнія апокі, у якіх знаходзяцца гнёзды адліваемых дэталяй.

Па-троху рукі і ногі ўсё больш і больш пачалі прывыкаць да чорназёмнай зямлі і да складанай работы рабочага-формаўшчыка. Майстры паказвалі як трэба фармаваць розныя дэталі.

У чатыры гадзіны формаўшчыкі заканчвалі формоўку і разьліўшчыкі — здаровыя мужчыны—прыступалі да адліўкі.

Да пузатых, аб'ёмістых вагранак, у якіх знаходзіцца растоплены чыгун, разьліўшчыкі падстаўлялі вёдры, куды чырвоны растоплены чыгун ліўся з вагранак. А потым разьлівалі ў пастаўленыя за дзень формаўшчыкамі апокі.

* * *

Ліцейны, як і астатнія цэхі заводу, меў і зараз мае хворыя бакі. Ударныя брыгады і комуны разваліліся. Два разы організаваныя комсамольскія брыгады, дзякуючы дрэннаму кіраўніцтву „ураўнілаўкі", распадаліся пасьля двухдзённай працы.

Наогул, комсамольская ячэйка, як гэткая ў цэху **не адчувалася**.

Пасьля некаторага часу адбыліся пазачарговыя перавыбары бюро ячэйкі, у якое былі абраны т. Хацін і Рэўдо. Першы быў абраны за сакратара, другі—АПО-працаўніком.

У ячэйцы, пасьля гэтых перавыбараў, пачалася работа і першае пытаньне, якое паўстала рубам перад бюро, гэта аб **поўным павароце ўсяе ячэйкі тварам да вытворчасьці.**



Адліўны цэх завода „Мэталіст".

* * *

Пад аднэй страхой в ліцейнай знаходзіцца маленькі пакой, дзе зьмяшчаецца разьдзяваньня і душ для ліцейшчыкаў. Пакой кругом абстаўлены шафамі рабочых.

Пасярод стаіць высокая жалезная печка і вялікі просты стол і некалькі скамеек.

Вось у гэты пакой сабралася бюро, каб абгаварыць пытаньне аб арганізацыі ўдарнай комсамольскай брыгады ў ліцейным цэху.

На бюро прыйшлі ня толькі члены і кандыдаты бюро (як гэта часта водзіцца), але і радавыя комсамольцы.

Прыйшоў нізенькі, заўсёды з вясёлай ухмылкай на твары, формаўшчык Карагін, лепшыя маладыя рабочыя Чэпікаў і Кастамараў.

З інформацыяй аб неабходнасьці організацыі ўдарнай комсамольскай брыгады выступіў т. Хацін.

Інформацыя была кароткая, жывая, конкрэтная.

Пачаліся спрэчкі.

Гаварыла Ліза — работніца шышэльнага аддзяленьня, гаварыў Кастамараў,—і ўсе выступленьні былі прасякнуты адзіным жаданьнем неабходнасьці організацыі ўдарнай брыгады, у чым-бы та ні было. Пастанова была

таксама кароткая—склікаць пазачарговы сход комсамольскай ячэйкі, на якім заслухаць даклад інструктара цэха т Жарскага аб організацыі ўдарнай брыгады ў ліцейнай.

**Праз некалькі дзён пасьля бюро, усім комсамольцам было абвешчана аб сходзе ячэйкі і аб галоўным пытаньні, якое будзе абгаворана на сходзе.**

**Сход быў назначаны а чацьвертай гадзіне дня ў шышэльным аддзяленьні.**

Шышэльны займае невялікі цёмны пакойчык, з усіх бакоў абстаўлены скрынямі чорнай зямлі, зьмешанай з апілкамі.

Тут робяцца з гэтай мешаніны розныя формы палачкі, якія ўжываюць формоўшчыкі ў час формоўкі дэталяй. У шышэльным працуюць амаль што адны дзяўчаты.

Пасьля чацьвертай гадзіны пакойчык шышэльнага аддзяленьня пачаў папаўняцца комсамольцамі. Праз паўгадзіны ўсе комсамольцы былі ў поўным зборы. Першае слова атрымаў т. Жарскі.

— Вельмі брыдка, калі ў цэху знаходзіцца комсамольская ячэйка, і да гэтага часу ня можа організаваць сапраўды ўдарную комсамольскую брыгаду... Ваш сход,—заканчваў дакладчык,—павінен сёньня вырашыць гэтае пытаньне і вынесьці пастанову: быць, або ня быць ударнай брыгадзе ў цэху. Ад імя адміністрацыі цэху абяцаем дапамагчы ва ўсім...



Укладаюць плугі ў кладоўні.

Пачаліся пытаньні трусьлівых, недаверлівых комсамольцаў,—а як з заработкамі? Ці будзе брыгада забясьпечана работай? Гэтыя пытаньні, якія паступілі ад адзінак, атрымалі рашучы адпор у часе спрэчак.

З-за сьпіны стаяўшых комсамольцаў вынырнула постаць Чэпікава.

— Дай мне слова!

— Калі ласка!

— Я, таварышы, — пачаў Чэпікаў,—думаю, што комсамольскую брыгаду ў нашым цэху мы павінны організаваць.

— Правільна,—падтрымліваў Чэпікава комсамолец, лепшы ўдарнік Арлоўскага ліцейнага заводу, які зараз працуе на „Чырвоным Мэталісьце“ — т. Кастамараў.

Прынятая пастанова гаварыла: комсамольскую ўдарную брыгаду організаваць, для выпрацоўкі падрабязнага статуту вылучыць спэцыяльную тройку, з 15-га красавіка пачаць работу брыгадай.



Ударная комсамольская брыгада імя „Чырвонае Зьмены“.

**Тройка, з дапамогай другіх комсамольцаў і адміністрацыі цэху, на заўтра приступіла да практычнай работы, выпрацавалі статут брыгады-комуны. Гэтая новая форма ўдарных брыгад была самая спрыяючая для брыгаднікаў.**

**Г. Віцебск, Завод „Чырвоны Мэталісты“.**

Сутнасьць брыгады-комуны наступная: група рабочых розных разрадаў, аб'яднаўшыся ў брыгаду, працуе ўся разам і заработак ідзе ў агульны кацёл, а пасьля, перад палучкай, кожны атрымлівае па разраду і прыработак таксама дзеліцца зноў-такі па разрадах.

Вось сутнасьць гэтай новай формы колектыўнай працы, якая заахвоціла хлапцоў.

Брыгада-комуна патрабуе ад кожнага брыгадзіра чоткай працы, выпуску нормы і якасьці продукцыі. „Дагнаць і выперадзіць свайго таварыша“.

Адбыўшыйся, нядаўна, сход брыгадзіраў гэты статут зацьвердзіў і брыгада, па ініцыятыве брыгаднікаў, была названа брыгадай імя газэты „Чырвоная Зьмена“.

* * *

З кожным днём хлопцы чакалі апошняй палучкі за красавік, калі кожны работаў ў паасобку. Кожны чакаў тую раніцу, у якую заводзкі гудок правядзе мяжу між астатнімі днямі, калі кожны працаваў паасобку. Гэтая раніца прыйшла ў сераду 16 красавіка.

У гэты дзень усе, як адзін, 8 комсамольцаў ліцейнага цэху пачалі працаваць па-новаму, па-ударнаму, па-соцыялістычнаму.

Я толькі сачыў, як нядаўна прыйшоўшыя комсамольцы з вялікім энтузыязмам работаюць і стараюцца дагнаць і выперадзіць сваіх таварышоў. Брыгада стараецца работаць тымі бальшавіцкімі тэмпамі, якіх патрабуе соцыялістычная краіна.

Першыя дні работы брыгады далі вялізарныя посьпехі. Брак не дасягае нават і тых 3 проц., якія намечаны прамфінплянам.

* * *

Так, па ініцыятыве самых комсамольцаў, у час распаду брыгад і комун дарослых, нарадзілася комсамольская брыгада імя газэты „Чырвоная Зьмена“. Брыгада комсамольцаў на чале з лепшым маладым рабочым т. Чэпікавым, не адстае ад комуны дарослых на чале з Еўдакімавым.

Брыгада з кожным днём расьце і мацнее. Адзін раз у тыдзень брыгада будзе займацца тэхнічнай вучобай, каб яшчэ больш навучыцца ліцейнай справе.

Чарговая задача брыгады ў процэсе работы дапамагаць, як мага, слабым, якія нядаўна прыйшлі на завод.

— Арлы нашы нічога сабе работаюць,—вось словы, сказаныя ад усёй душы інструктарам цэху т. Жарскім па адрасу брыгады.

Гэтыя словы брыгада сапраўды заслужыла.



# СКУЛЬПТУРА САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ



АЗГУР — Бюст Галубка



БРАЗЭР — Рафальскі



ГРУБЭ — Будаўніцтва

**КОПРЫ (З цыклю „На будоўлі“)**

Офорт С. Крамара



# ПЛЫТАГОНЫ

НАРЫС СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА

I

ПАЛІК разьвітаўся з апошнімі крыгамі. Верхавіны дрэў паслалі ім, уплываючым у сінь-прасторы, апошняе „бывай“. Нахіліліся голыя лозы, каб разьвітацца... Ня стрымаў і Зьмітрок. Зьняў ён шапку, пакруціў яе на пальцы рукі, ды кінуў у здагонку крыгам:

— Да пабачэньня!

Пачулі хлопцы голас Зьмітрака. Як круціў шапку ўбачылі. Сьмехам заліліся.

— Бач, стары, а і ён ў вясьне толк ведае...

Вясна.

Сапраўды, прыйшла маладая, радасная вясна. Сонца па-новаму пачало ліць на дол сваё поўнае радасьці і цяпла сьвятло. Птушкі зашчабяталі. Бадзёрым шумам-шолахам загаманіў стары бор. Вецер зрабіўся сьвежым, цёплым, шустрым і ласкавым.

Вясна. Ластаўкі снуюць над вадой. Бусел па лузе дыбае. Дзікія качкі шныруць у кустох.

Вясна. Дыхацца лягчэй стала. Вальнейшым зрабіўся чалавек. Сілу адчуў, моц. Сябе адчуў.

— Ну, хлопцы, заўтра за працу прымаемся — плыты вязаць, а сёньня адыхнём,— прамовіў Зьмітрок, прыцэліваючыся сесьці каля пяцярых хлопцаў.

Сеў. Сабраў вакол сябе некалькі сухіх галінак, палажыў на іх шапку — вышэй пад галаву будзе, ды лёг. Лёг і як анямеў. Заснуў. Зьвялі і хлопцы вока. Сонца-ж плыло па сініх водах Паліка, а з-за лесу вецер нёс вечар...





Сплаў леса на Бярэзіне каля Барысаба.

II

Палік — цудоўная мясьціна. Казачнае возера. Мора, а ня возера. Кругом лес. Бор стары, пушча. І здаецца, каб ня было гэтага бору, ня ўбачыць-бы чалавечаму воку берагоў Паліка.

Такое яно вялікае. Сіня-чорныя воды гойдаюцца ціха. А дрэвы нязьлічанай колькасьцю адлюстроўваюцца ў неабсяжна-цудоўным люстэрку.

Ледзь, ледзь прыметна, як у двух кілёмэтрах ад берагу хвалюецца вада. Выставіўшы чорную галаву плыве бабёр. Цяжка яму. Ён папаў на рэчышча Бярэзіны. Гэта яна — Бярэзіна, прасякае Палік, нясучы свае воды ў Дняпро. Бурліць вада. Цяжка бабру, але ён змагаецца. Вось пераплыў ён рэчышча. Стаў. Кінуў вакол зірк. Нікога няма. Зноў крануўся. Ды проста на вогнішча. Скмеціў цяпло. Нырнуў. Толькі круг разышоўся па вадзяной гладзі...

— О, бабёр, хітрая жывёліна. Хоць і шмат іх у Паліку, а ўбачыць ня лёгка. Баіцца чалавека. Трус бабёр, хлопцы. Вялікі трус і плакса, — кажа Зьмітрок. — У мінулым годзе мы толькі, было, адплылі ад берагу, а віхор як хопе нас, ды к берагу. Як ня трымаліся — не дапамагло.

Прыпёр.

Стаім.

Аж бачым — між берагам і плытамі сядзіць бабёр. Склаў лапкі, ды плача, як чалавек, сьлёзы так і коцяцца і коцяцца адна за другой, аж шкада стала. Узялі мы яго ды шлёп у ваду. І ня стала, а праз некалькі хвілін вынырнуў і прастаяў на вадзе пакуль мы не адплылі... ня інакш гняздо блізка было...

— Палік. О, тут не адны бабры. Тут у сініх водах ёсьць надзвычайна вялікія самы, шчукі, ляшчы. Тут шмат featнае рыбы.

Улетку ў цёплую ціхую пагоду перад захадам сонца, або ў поўдзень, калі над вадой снуюць ластаўкі і кулікі, узыходзяць з дна возера самы і кідаюцца з вады, каб схапіць птушку. У такія разы ні адзін рыбак не адважыцца выехаць на чоўне на возера.

— А ў пушчы, якая акаляе возера з усіх бакоў, паўнюсенька featнага зьвяр'я. Тут табе і воўк, і дзікі кабан. Лісіцы, козы і каты дзікія, а часам, нават лось шмыгане праз паляну.

— Палік — гэта ціхая дзяржава — бацькаўшчына зьвяр'я — першы ў Беларусі пітомнік. Тут спакойна жыве цецярук, заяц разгульвае. Дзятлы стукочуць дзюбамі...

Большасьць жыхароў гэтага бору-пушчы, пораху-стрэльбы паляўнічага ня нюхалі, стрэлу нават ня чулі. Так і жывуць некаторыя на волі, а некаторыя ў зьняволі, у цішы і супакоі пад абаронай і вартай.

III

І калі абмыўшыся ў водах Паліка выкацілася сонца, шэсьць чалавек узялося за працу. Скацілі ў ваду два бервяны.




**Баржа Лесбелу на р. Бярэзіне.**

Паклалі на іх дзьве жардзіны. Прыбілі. Каб мацней было дротам перавязалі і пачалі качаць на гэту аснову плыта бярвеньні. Клалі іх поплеч, прымацоўвалі. Наклалі адзін, потым другі рад. Праз гадзіны дзьве плыт быў гатоў.

— Пачатак ёсьць, — прамовіў Зьмітрок. Адпачнем хлопцы. Шкода ўсё-ж, што поўлітра няма, а то і замачылі-б...

— А хіба табе яшчэ ня мокра, — пажартаваў Гваздоўскі. — Я дык поўныя боты начэрпаў вады.

Закурылі. Пасядзелі. Ды зноў узяліся за працу. Бор стары зашумеў. Прабягаючы ветрык закружыўся па сіняй роўнядзі Паліка. Праплыло бервяно. Гваздоўскі хацеў злавіць. Цюкнуў у канец бервяна багром. Слаба. Другі раз хацеў стукнуць — не дастаў. Уцякло.

Усю апошнюю частку дня плытагоны вязалі плыты. Роўна праз тры дні плыты былі гатовы. Ціхім, раньнім, золкам плытагоны пакінулі Палік. Здаецца пахіліўся ў разьвітаньне стары бор, а дзесь на беразе прапяяў жаўра разьвітальную песьню.

— Цёпла, хлопцы, будзе, жаўры запялі...

Плылі тыдзень. А на другі, у яснае сонечнае раньне, прыляцелі да плытагонаў знаёмыя песьні — музыка гудкоў барысаўскіх фабрык і заводаў. Пад поўдзень міналі масты. Прайшлі добра. Плыты не парвало. Па Бярэзіне снавалі чаўны. А з рэчкі Сха на Бярозу выплывалі новыя плыты. Гучная песьня разносілася з вуснаў плытагонаў. Любая, вясёлая, шумна-радасная плытагонная вясна, пачалася. Зьмітрок параіў хлопцам лепш сачыць за сваімі плытамі.

— Бачце, яны дрэнны заварот зрабілі пры выхадзе са Схі, здаецца заломіць, а там глядзі і парве. Трымайцеся правай... Хвост хай ідзе каля самага берагу... Гваздоўскі, вазьмі арала *), Ды ў выпадку чаго кідайся на бераг... стрымлівай плыты.

Прыгожа агінаючы ўзгорак, струменяць воды Бярэзіны. Насустрач плытам ішоў параход.

Гваздоўскі кінуўся на бераг.

— Стрымлівай, стрымлівай, а то парве,— крычаў Зьмітрок.

Ад параходу ў бакі разыходзіліся хвалі. З вялікай сілай і пагрозай каціліся яны да берагоў, выкідаючы за зялёную рунь шапкамі белую пену.

... Потым, калі параход прайшоў і Бярэзіна супакоілася, зноў паплылі плыты. Толькі цяпер Зьмітрок заўважыў, што на рацэ былі не адны яны, а шмат людзей з баграмі — братоў плытагонаў.

— Эй, прычалівайся, — гойкнуў хтосьці з берагу. — Пад жалезным мастом заламала Янку.

Глянуўшы ўперад Зьмітрок убачыў, што каля быкоў жалезнага маста зьбіліся плыты. То заламала плыт Янкі Багуцкага, які добра выпіўшы не заўважыў, што блізка мост. Перадок стукнуўся ў бок і плыт заламала, а потым — парвала.

— Эй, Гваздоўскі, прычал...

Плыт заскрыпеў, бо Гваздоўскі, не чакаючы калі падасьць голас Зьмітрок, стаў прычалівацца.

Па беразе бегаў дзесятнік і дужа хваляваўся.

— Вось, ліха іх матары. Перасалілі хлопцы. Задужа хлебанулі, ну і вядома недасачылі, пад мастом заламала — плыты парвала... Не, браткі, пры такой працы мы праграмы па лесасплаву ня выканаем. А праграма вялікая. Трыццаць процантаў усяго беларускага сплаву прыпадае на Барысаўшчыну. Больш як тры тысячы чалавек ужо працуе. А пачнуць усе ў бутэльку глядзець — кепска будзе... Зьмітрок, малайчына, першым пайшоў на Палік — і пайшоў добра. Як кажуць — добры час... Ай, яй, яй, чуць не забыўся, што ў кантору трэба бегчы. Сёньня тры новых партыі адыходзяць на Палік і трэба-ж было мне забыцца.

Дзесяткік хуткімі крокамі пабег да канторы. Шлях пад мост расчыніўся. Звучнай гутаркай адчаліваліся ад берагоў плытагоны. Трэба было сьпяшацца, бо заводы чакаюць сыравіны.

*) Прычал.

## МЭХАНІЗАВАНАЯ ПРАЦА



**ФАРБОЎКА СЬЦЕН • Фото Л. ДАШКЕВІЧА**

# КОЛГАСНАЯ ВЯСНА

## НАРЫС АЛЕСЯ МІРОНАВА

У ТЫЯ месяцы зямля ніякага ўдзелу ня прымала ў глухім змаганьні людзей **за і супроць** колгасы. Пакрытая сьнегам, яна яшчэ нікога ня трывожыла.

Але шпарка, нястрымна беглі дні ўперад. Селянін усё чухаў патыліцу і ніяк ня мог даць адказ на запытаньне, за якое ён жыцьцё: за старое ці новае. А ўсё вакол жыло бурным жыцьцём. Кожны дзень прыносіў новыя чуткі. Яны нараджаліся і распаўсюджваліся кулакамі, яны мелі сілу і ўплыў.



— Жонкі ў колгасе будуць супольныя.

— Колгасьнікаў кляйміць будуць, каб нікуды не ўцяклі.

— Насеньне ў колгасьнікаў забяруць, ды ў горад павязуць... Гэтыя чуткі расьлі ўсё больш і больш. Вёска хвалявалася, мітынгавала, зьбіралася, разыходзілася, ды зноў зьбіралася, але адказаць не магла. У гэтыя дні ў Халопеніцкі раён прыехала рабочая брыгада.

1922 год. Халопенічы—бандыцкі раён. Дзесяткі банд шмыгаюць па раёну. То ў адным канцы раёну, то ў другім паляць сельсаветы, школы, кооперативы, забіваюць комуністых, савецкіх працаўнікоў. Бедната тэрорызавана. Дзесяткі кулацкіх сыноў, супольна з бандытамі, перайшоўшых мяжу, руйнуюць савецкую ўладу ў раёне. Супольнымі сіламі банды разьбіты, але кулак застаўся жыць, трымаючы камень у кішэні, каб у выпадку кінуць у саветы.

Цяпер раён не пазнаць. Адроджаны да новага жыцьця, разам са ўсёй Савецкай Беларусьсю, Халопеніцкі раён разгортвае будаўніцтва колгасаў. Але няма сіл, не хапае людзей.

Добра, што прыехала брыгада—гавораць працаўнікі Райкому. Чым больш людзей, тым мацней па кулаку ўдарым.

І ўзяліся за работу.

У брыгадзе восем чалавек. Сем рабочых ад варштату, камандыраваных усім прадпрыемствам выкарчаваць старую, мохам зарослую, вясковую цемру, каб ачысьціць шлях да новага жыцьця. А з імі быў восьмы—доктар, які паехаў загаіць вясковыя раны.

І адразу, з першага дня пачалася жорсткая,—не на жыцьцё, а на сьмерць,—барацьба брыгады, з пакуль яшчэ ня бачаным, але заўзятым ворагам—кулаком. Куды мы ня ішлі, мы паўсюды адчувалі яго прысутнасьць, ён быў незамянімым падарожнікам усіх нашых выступленьняў і выездаў.

Брыгада прывезла з сабой багата рэчаў: мэдычныя прылады, літаратуру, радыё-ўстаноўку і друкарню.

— Вось яна, тая машына, што будзе колгасьнікаў кляйміць.

— Доктар здаровых пагоніць працаваць на заводы, а хворых пакінуць тут. Не хадзеце да доктара.

Гэтымі чуткамі кулакі віталі прыезд брыгады. Але мы адразу адчулі іншае. Вёска вырасла. Бедната, серадзнякі, моладзь, асабліва моладзь акружыла нас шчыльнай сьцяной прыязьні, таварыства і супольнае зацікаўленасьці да дасягненьня адзінае мэты. Узварушаная вёска бурліла.

— Жыць па ранейшаму зараз ня можна,—гэта разумеў кожны. Але як-жа перайсьці на новыя рэйкі? Сотні год, дзяды, прадзеды жылі, гаравалі, капейку да капейкі зьбіралі, будавалі сваю, уласную гаспадарку, сваю, хоць хірую, худую, але сваю хатку з саламянай страхой. А вось тут прыйшлі новыя людзі, праўда, свае людзі, але чамусьці кажуць яны, што толькі тады пачнем па-людзку жыць, як адкінем свае прадзедаўскія ўласьніцкія забабоны, калі зробім усё супольным, колектыўным.

Усхваляваная вёска не магла ўвайсьці назад у свае берагі. Колектыўная ідэя ўсё больш падкопвалася пад уласьніцкія звычаі. Энтузіястыя колектывізацыі супольна з брыгадай рабілі сваю справу,—рыхтаваліся да рашаючага сходу, калі будзе вырашана пытаньне: колгасу—быць, ці ня быць. Абодва бакі рыхтаваліся да бойкі.

Кулацкі агітпроп намацаў найбольш слабыя нашыя позыцыі. Гэта—жанчыны. У асабліва адказныя хвіліны, калі вёску кідала ліхаманка, можна было паставіць знак роўнасьці між лёсам колгасу і настроем жанчын. Наступленьне на жанчын ішло з двух бакоў: папоўска-кулацкага і колгаснага. На чыім баку будзе жанчына, той бок пераможа. Галоўная роля ў прылівах і адлівах належала жанчыне. І ці не таму столькі памылак і прарываў было, што за яе мала змагаліся, дрэнна вызвалялі яе з рук папоў і кулакоў?

Баба змагалася за сваю кароўку, а тутэйшыя **галавацяпы** **некаторых установ сваёй дзейнасьцю лілі ваду на кулацкі млын.** Забраўшы ў колгас кароўку ды курыцу, жанчына апынулася ў радох ворагаў колгасу. Барацьба абвастрылася. Трэ' было зламаць сьцяну недавер'я паміж сялянамі і брыгадай. Падоўгу мы прыватна гутарылі з беднатой, з серадзнякамі. Знаёміліся, даведваліся пра іх балючыя справы, пра тое, што каму баліць. Знаёміліся.

Кулакі пайшлі ў адкрытую. Ведалі яны, што іх справы дрэнь, што сход усёроўна з'організуе колгас, але хто топіцца, дык нават за саломку хапаецца.

— У колгасе забаронена богу маліцца, ды сьвяты спраўляць,—падобнага роду чуткі павінны былі яшчэ большую мешаніну ўнесьці ў галовы сялян, якія ўсё яшчэ канчаткова ня вырашылі для сябе пытаньне.

Брыгада перайшла ад слоў да справы. У адным памяшканьні абсталявалі хату-чытальню, паставілі радыё. Пачала працаваць друкарня. Яшчэ адну хату прыстасавалі пад мэдычны пункт.

Кулацкі агітпроп усё яшчэ на прызбах зьбіраўся, курылі цыгаркі, беднякоў частавалі, настрой рыхтавалі. А мы супольна з тутэйшымі комуністымі ня спынялі практычную работу.



Агульны сход. Настрой узьняты, бурны. Трэба змагацца за кожны голас, за кожную руку. Бядняк, серадняк усё яшчэ ня можа ўявіць сабе, як гэта ня будзе свайго каня, а будуць агульныя колектыўныя сотні коняй, што ня будзе аднаго, уласнага плуга, а 30 абагуленых, колектыўных плугоў. Цяжкая, марудная барацьба. Нацкаваныя папом і кулакамі, жанчыны бачылі ў рабочай брыгадзе, у тутэйшых комуністых ворагаў, якія хочуць адабраць у іх дзяцей для адпраўкі ў Кітай, што будуць шыць 70-мэтровыя коўдры, каб супольна спаць, што ў колгасе будуць бабам валасы стрыгчы, каб пасляць за межы.

На ўсе гэтыя і на сто іншых пытаньняў трэба было даць яскравы адказ, каб нічога нявысьветленага не пакінуць, каб падрыхтаваць сход да галасаваньня. Колькі сіл, энэргіі і нэрваў было пакладзена на тым сходзе. Адно неасьцярожнае слова магло сапсуць усё, што з вялікімі клопатамі было дасягнута. Усё трэба ўзважыць, усё абдумаць. Становішча высьвятляецца: трэцяя частка сходу за колгас, чацьвертая супроць, а астатняя—так званая балота, усё яшчэ хістаецца паміж двума хвоямі і рашучага адказу не дае. Ад гэтага „балота" залежыць усё—быць, ці ня быць. Трэба перацягнуць усе рукі „за". Трэба моцна адарваць людзей ад старога. Гэтаму вучыць клясавая барацьба.

Усё-ж пад канец сходу недавер'е было канчаткова зламана: выявілася, што пераважная большасьць за колгас.

Некалькі дзён пасьля гэтага выйшла газэта, якая друкавалася ў нашай паходнай друкарні. Называлася яна проста—„За колгас". Яна ня ішла на цыгаркі. Яе чыталі, як кажуць, ад радку да радку, перачытвалі па некалькі раз, хавалі, каб у вольную хвіліну зноў пачытаць. Газэта будзіла, заклікала—была баявым організатарам працоўных мас.

Спачатку сяляне ня верылі: няўжо-ж у іх, у вёсцы была надрукаваная газэта? А пісала газэта пра тое, што хвалявала працоўнае сялянства. Газэта тлумачыла партыйную лінію, яна конкрэтнымі прыкладамі з жыцьця Халопеніцкага раёну паказвала, якім шляхам трэба бедняку і серадняку ісьці, каб, пазбавіўшыся кулацкае няволі, пачаць будаваць новае соцыялістычнае жыцьцё.

Зацікавіўшыся газэтай, сяляне ўжо больш не задавальняліся роляю чытачоў, яны актыўна пачалі ўдзельнічаць у складаньні газэты. Сялянская „пошта" хутка разносіла газэтныя навіны па раёну. Не пасьпела яшчэ газэта дабрацца да глухога кутку раёну, як там ужо добра вядома было пра што і як у газэце напісана. Дзесяткі і сотні заскарузлых лістоў пасыпаліся ў паходную рэдколегію. Узварушыліся селькоры.

Адначасова з работай па выпуску газэты пачаў працаваць наш мэдычны пункт. Недавер'е да нас асабліва яскрава выявілася ў адносінах да доктара. Да яго не хадзілі, яго цураліся. Гэта толькі цяпер, калі колгасны рух разгортваецца моцным тэмпам, стварылася база для аздараўленьня вёскі. Хіба-ж маглі індывідуальныя, раздробленыя гаспадаркі забясьпечыць добрае забесьпячэньне вадой, ачыстку двароў і вуліц ад брыдот, перабудаваць кватэры? Колектывізаваная гаспадарка ўносіць карэнны пералом у справе аздараўленьня вёскі. Аб усім гэтым трэба тлумачыць, трэба было селяніна пераканаць, што доктар нясе яму і яго сям'і толькі дабро, што ня трэба пужацца, а пайсьці да доктара і сказаць яму пра свае хваробы.

Дзень другі ніхто ня прыходзіў, а пасьля, як зайшоў адзін, пайшлі і астатнія. Першы селянін зьдзівіў доктара сваім выглядам. Цяжка было распазнаць ці беларус ён, ці нэгар. Яго цела пакрывала тоўстая, чорная корка гразі, відаць чалавек дзесяцігодзьдзямі ня мыўся. І такіх было шмат. Закіданыя ў барох Барысаўшчыны, далёка ад чыгуначных шляхоў, гэтыя сяляне часам настолькі адарваны ад элемэнтарных асноў культурнага жыцьця, што кавалка мыла ня бачылі. Вось да іх павінен быў дабрацца доктар. А раз пайшоўшы да іх, яны пасьля валам пасыпалі да яго, прыйшлі са сваімі хваробамі, і турботамі і сумненьнямі.



Мы правялі статыстычную працу па выяўленьні санітарнага стану раёну. Вынікі проста жудасныя. Амаль у кожнай хаце—хворыя. Больш чвэрці ўсяго насельніцтва раёну хворыя на сыфіліс. 50 процантаў хворыя на трахому.

І гэта—бяз ніякага мэдычнага дагляду, без лячэньня, без мінімальных гігіенічных умоў.



Газэта „За колгас" нічога ад насельніцтва ня ўтоіла. Яна ім лічбамі давяла ў які стан прыйшла вёска ў выніку індывідуальнага гаспадараньня. Тры кіты: студня, лазьня і больніца маглі знайсьці свае вырашэньне толькі ў колгасе.

Хочаш выбрацца з жабрацтва і галечы, з хвароб і брыдот—ідзі ў колгас. Колектыўнымі намаганьнямі мы з посьпехам вырашым гэтую задачу.

Сабе на дапамогу брыгады прыцягнулі моладзь. Вясковыя школы і комсамольскія ячэйкі з энтузіязмам узяліся за справу перабудовы вёскі. На цемру, на някультур'е, на жабрацтва распачалося комбінаванае наступленьне. І вораг адступіў. Кулак страціў свой уплыў на тых, хто былі ні „за", ні „супроць". Яны зразумелі, што гэтак, як раней, далей жыць ня можна. Вароты колектыву былі адчынены і запіс павялічваўся. Тыя, што ўвайшлі ў колектыў, клікалі астатніх. Першыя 20 гаспадарак, што ўвайшлі ў колгас, стварылі моцнае ядро, за імі пацягнуліся астатнія. Праз тыдзень мы ўжо мелі першы колгас з 70 бядняцкіх гаспадарак.

У першай бойцы кулак быў пераможаны. Узбагачаныя практыкай, мы разгарнулі працу па будаўніцтву новых колгасаў і ўзмацаваньні існуючых. Раённая партыйная організацыя правільна ўцяміла асноўны ленінскі наказ, што загадам ня можна кіраваць вёскай. І націснулі на паказ. У раёне будаваліся чатыры цагельныя лазьні, існуючая больніца павялічана ў два разы, організавана некалькі мэдычных пунктаў, будаваўся ізолятар для заразных хворых, будаваліся школы, хаты-чытальні, вялікія хлявы для абагуленай жывёлы,—будавалася новае жыцьцё.

І ўсё гэта адбівала на сваіх старонках газэта, організоўваючы і заклікаючы працоўныя масы супольна з партыяй будаваць соцыялістычную вёску, соцыялістычныя гарады, соцыялізм.

Назад, да варштатаў, клікаў нас горад. Наборныя касы і машыны менскіх друкарняў клікалі брыгаду назад.

Колгасы організаваны, насельне сабрана і колгасьнікі рыхтуюцца да сяўбы,—значыцца можна ехаць назад, назад у Менск, у друкарню, дзе рабочыя прагна чакаюць вынікаў нашай шматтыднёвай работы.

Ужо не мае, свае, уласнае, а—колгаснае, абагуленае. На колгасных конях, нас, разам з нашай паходнай друкарняй, адвозяць на станцыю.

* * *

А ў Менску, у далёкім вірлівым Менску брыгадзіры дакладвалі на шматлюдным рабочым сходзе аб праробленай рабоце і перадалі рабочым-друкарам шчырую падзяку сялян-колгасьнікаў за таварыскую дапамогу, за добрую газэту.

Некалі поўны бандытамі, Халопеніцкі раён, будзе раёнам квітнеючага соцыялізму. Таму парука—братэрская дапамога пролетарскага гораду вёсцы.

# ЛЕНІНСКІ •ШЛЯХ••

РЭДАКЦЫЯ Ц. О. УсеКП(б) „Правда" накіравала ў розныя раёны СССР 53 друкарні для выданьня колгасных газэт з поўным абсталяваньнем і патрэбнай колькасьцю рабочых.

Адна з такіх друкарань выдавецтва „Правда" прыслана ў Беларусь, у Слуцкі раён суцэльнае колектывізацыі.

Брыгада рабочых друкарні складаецца з ударнікаў рабочых дзяржаўнае друкарні „Красный Печатник". Пэрсональна ў брыгаду ўваходзяць рабочыя наборшчыкі: Іваноў А., Чагігін А. і друкар Аржанухін.

Брыгада друкароў працуе ўжо 3 месяцы. За гэты час тэхнічна аформіла 7 нумароў колгаснае газэты „Ленінскі шлях", якую выдае Райком партыі.

На здымку: друкарня ў поўным складзе, разам з рэдактарам газэты за выпускам 4 нумару раённай колгаснай газэты „Ленінскі шлях".



# КУЛЬТРАБОТА Ў САВЕЦКІХ ГАСПАДАРКАХ







# АДЗІН ЗАБОЙЦА? НЕ, НЕ АДЗІН, А ТЫСЯЧЫ

Апавядаць аб вайне? Дык гэта нікога ўжо больш ня цікавіць. Вось ужо некалькі год, як кажуць і паўтараюць на ўсе лады гэтыя словы. Аднак, пакуль дзейнічае стары закон, згодна якому адны і тыя прычыны прыводзяць заўсёды да адных і тых-жа вынікаў, зацікаўленасьць вайною ніколі не адыйдзе ў мінулае, а, наадварот, застанецца пільнаю справаю сёньняшняга і заўтрашняга дня. Калі толькі, зразумела, ня возьмуцца за зьнішчэньне самых прычын.

Як-бы то ні было, каб распачаць гэтае апавяданьне, адзначу, што ўказаная тэма—вайна—ня была ня цікавай афіцэрам, якія сабраліся ў гэты дзень у мірнай атмосфэры кафэ, у гэтай цяжкай, усім нам добра вядомай атмосфэры, насычанай параю кавы і дымам табакі.

Гэта было ў Антыбэ некалькі год таму назад, калі гэты горад зьяўляўся адным з самых прыгожых і маляўнічых куткоў Міжземнага ўзьбярэжжа, калі яго вялізная плошча яшчэ ня была так густа і брыдка забудавана, калі яго старыя насыпы ня былі зруйнаваны і ён сам яшчэ ня быў так відочна заражаны сучаснай праказай—спэкуляцыяй.

Адзін з гэтых афіцэраў—Бэранжэ, лейтэнант 3-га пяхотнага Антыбскага палка, з вялікім захапленьнем перадаваў свае франтовыя ўспаміны сваім размоўцам, двум маёрам. Да гэтых успамінаў лейтэнанта Бэранжэ прымешваўся некаторы гонар. Дый было чым ганарыцца? Гэты ваяка не на жарты пышыўся тым, што прымушаў сваіх салдат прыкладамі дабіваць параненых немцаў.

Але батальённы камандзір, маёр Матыс, які быў начальнікам лягеру ў Кані, меў на дзьве нашыўкі больш, чымся лейтэнант Бэранжэ. Таму, зразумела, у яго было больш чым пахваліцца.

І вось ня гэты, а другі маёр, які належаў, мабыць, да зусім іншае пароды людзей, запомніў гэту цудоўную споведзь.

„Я быў," казаў Матыс, капітанам і камандаваў батальёнам у Флёры ў часе лютаўскага наступу. У лагчыне Пудрыер мы ўзялі ў палон дзьвесьце немцаў. Калі бой скончыўся, я расставіў абяззброеных палоньнікаў у два рады, абраў сярод іх дваццаць чалавек, а астатніх сто восемдзесят адправіў назад у акопы і загадаў маім малайцом „чыкнуць" іх. Мае людзі не адважыліся сьпярша, але пасьля майго грознага паўторнага загаду, яны кінуліся на палонных".

Тут я дазволю сабе перапыніць гэты монолёг, каб паразважаць крыху самому і даць магчымасьць і вам падумаць над сапраўдным сэнсам гэтых слоў, якія раздаваліся за мармуровымі столікамі ў Антыбскім кафэ, дзьверы якога адчыняліся вельмі рэдка, дзе, у глыбіні, некалькі провінцыяльных сілуэтаў, нібы закончвалі малюнак і дзе лёкай, прастадушны хлапец, зьвякаючы поўным падносам, павольна рухаўся паміж столікамі.

Спэцыфічнае слова „чыкнуць", ужытае маёрам Матысам, зьяўляецца слоўным піруэтам, за якім хавэецца сапраўднае імя тае дзікае опэрацыі, аб якой ён апавядаў. У сапраўднасьці, гэта азначала, што людзі абяззброеныя, дрыжачыя, спалоханыя, адзіным злачынствам якіх, відавочна, было тое, што яны паслухаліся сваіх камандзіраў, былі расстаўлены ў рове (сто восемдзесят чалавек—доўгі шэраг), а другія людзі, узброеныя нажамі і штыхамі, павінны былі кінуцца на гэтыя маладыя целы, крышыць і сячы іх, спакойна, „бяз імпэту", як кажуць спортсмэны.

Гэтую сцэну ня цяжка сабе ўявіць. Дзікі загад дадзены. Але забіць гэты вялізны натоўп маладых незнаёмых людзей, якія стаяць вось тут, разам, ня ўздымаецца рука. Маёр успамінае аб гэтым хістаньні, якое, паколькі ён здолеў перамагчы яго, толькі дапамагае яго славе. Калі-б салдаты не паслухаліся, яго аўторытэт быў-бы падарваны. Ён пагражае, ён абяцае нагароду. Якім гэстам аддаўся ён у гэты рашучы момант? Якое слова крыкнуў ён? Невядома. Але яму ўдалося падштрыхнуць аднаго з хістаючыхся; ён адважыўся такі накінуцца на стаячага перад ім жывога чалавека, перарэзаць яму горла і распароць жывот. Сьледам за гэтым кінуўся другі, а там і ўсе астатнія, захопленыя нейкім агідным ап'яненьнем і ўзбуджаныя крыкамі, якія вырываліся з гэтага сьвежага, скрышанага да самага касьцяка, цела.

Маёр Матыс працягаў сваё апавяданьне:

„Іх перарэзалі ўсіх да аднаго. Калі я прывёў палкоўніку тых дваццаць, што засталіся ў жывых, ён сказаў мне: „Я думаў, што вы ўзялі ў палон цэлы батальён". Я яму адказаў: Я ўзяў у палон 200 чалавек, але 180 засталіся ў акопах, і яны адтуль ужо больш ніколі ня выйдуць". Палкоўнік, з нездаволенай мінай, сказаў мне: „Вельмі не хвалецеся гэтым. Глядзеце, як-бы вам не пазбавіцца нагароды".

„Не, гэта не перашкодзіць мне атрымаць ордэн", адказаў я яму. І, сапраўды праз невялікі час я атрымаў яго".

Капітан Матыс стаў батальённым камандзірам і, спадзяючыся на лепшае, ён пакуль-што напышліва паказваў па ўсіх гарнізонах свой ордэн Пачэснага легіёну. Гэта якраз у духу нашай цывілізацыі, якая ва ўсім сьвеце, усюды, дзе толькі магчыма, забівае слабыя менчыя нацыі з тае прычыны, нібы яны дзікуны.

Нядаўна я адзначыў у друку гэты факт, адзін з самых агідных фактаў нашай праклятай сучаснасьці. У адказ на гэта—„Progres civile" усхваляваўся, а Ліга аховы правоў чалавека ўзьняла рукі ўгару. „Гэта нясьцерпна", крычалі яны. „Патрэбна зрабіць самае бязьлітаснае расьсьледваньне і ўжыць самыя жорсткія меры; аддаць пад суд маёра Матыса або пісьменьнікабрахуна". І Ліга аховы правоў чалавека ўзяла справу ў свае рукі. Я ніколі не спадзяваўся на такі посьпех. Праз некалькі гадоў я запытаўся ў Лізе, як абстаіць справа. Яна мне адказала... што ахвотна занялася-б гэтай справай, калі-б я знайшоў яшчэ некалькі сьведкаў, бо я ўказаў толькі аднаго, а ёсьць лацінская прыказка, згодна якой аднаго сьведкі мала: „Festis unus, testis nullus". Дарэмна я даводзіў, што гэты сьведка мае асаблівае значэньне, бо ён зьяўляецца афіцэрам, роўным Матысу па чыне, што ён прыводзіць уласныя словы вінавайцы, сказаныя ім публічна, і што акрамя таго агалашэньне гэтых слоў, якое выклікала столькі шуму, ня мела жадных абвяржэньняў. Ліга адказала мне толькі гордым маўчаньнем.

Гэта яе справа. Але да якога-ж гэта часу забойцы, падобныя да Матыса, будуць яшчэ мець у сябе пад рукамі паслухмяныя ім шэрагі забойцаў.



Aux camarades et amis de Russie Blanche Fraternellement Henri Barbusse

**Адзін з апошніх портрэтаў т. Анры Барбюса. Пад портрэтам подпіс: „Таварышам і прыяцелям на Беларусі З брацкім прывітаньнем Анры Барбюс".**

# БЫЦЬ НА ВАРЦЕ

**Нарыс ДЫМЭНШТЭЙНА**

ЧОРНЫЯ хмары з кожным годам усё больш згушчаюцца на політычным кругавідзе. Посьпехі нашага соцыялістычнага будаўніцтва, наш пераможны—ня гледзячы на вялікія цяжкасьці—рух наперад па шляху да соцыялізму—усё гэта вельмі непакоіць, вельмі злуе нашых клясавых ворагаў на той і на гэты бок мяжы. Усё гэта прымушае іх вельмі заўзята і энэргічна рыхтавацца да вайны з намі.

Вайна паміж імі і намі, паміж старым, што памірае ў муках і паміж новым—няўхільна. Яна няўхільна таму, што ня могуць жыць доўга мірна між сабою ў сьвеце зусім процілеглыя сыстэмы, як капіталістычная і соцыялістычная. Яна няўхільна таму, што капіталістыя, страціўшы надзею на „мірную эволюцыю бальшавізму ў бок капіталізму", бязумоўна папрабуюць ліквідаваць сілаю зброі і інтэрвэнцыі „месца комуністычнае заразы", дыктатуру пролетарыяту.



Хімгурток хатніх гаспадынь пры ЖАКТ'е № 2 (г. Менск).

Шэраг фактаў гаворыць нам пра тое, што гэты напад капіталістаў на нас не за гарамі, што мы кожны дзень, кожную хвіліну павінны быць гатовы даць ворагу адбой.

Хіба ўзброены конфлікт на савецка-кітайскай мяжы ня быў спровокаваны імпэрыялістымі? Хіба гэта ча была спроба ўцягнуць нас у вайну і гэтым самым ня даць нам магчымасьці будаваць—працягваць будаваць соцыялізм у нашай краіне? Праўда, імпэрыялістыя здорава апякліся на гэтай справе, праўда—наша Чырвоная армія добра паказала, што яна жартаваць з сабою не дазволіць, што яна зможа даць ворагу добры адбой. Але ўсё-ткі факт астаецца фактам: імпэрыялістыя спровокавалі савецка-кітайскі конфлікт, яны спадзяваліся праз гэты ўзброены конфлікт уцягнуць нас у вайну.

А „куцепаўшчына" ў Францыі, а апраўданьне бэрлінскімі і парыскімі судамі вядомых машэньнікаў і фальшывамонетчыкаў, а гэты апошні па ліку „крыжавы паход", што прапаведваецца папам рымскім і ўсімі яго агентамі ў сутанах і расах—хіба гэта не адчыненая падрыхтоўка да вайны з намі, хіба гэта ня хітра зробленая падрыхтоўка грамадзкае думкі Эўропы і Амэрыкі, каб згадзіцца на гэту вайну? Вядома так.

Імпэрыялістыя ліхаманкава рыхтуюцца да гэтае нямінучае вайны. Яны чакаюць яе, спадзяючыся сілаю штыхоў сваіх бяспраўных салдат, цалкам ліквідаваць дыктатуру пролетарыяту ў краіне саветаў. І яны толькі чакаюць політычна прыдатнага для іх часу, каб гэты свой плян выканаць.

* * *

І вось у датычэньні да гэтых фактаў, значэньне Асаавіяхэму як організатара ваенізацыі працоўных мас, як бліжэйшага дапаможніка Чырвонай арміі ў справе абароны краіны, як злучальнага зьвяна паміж Чырвонаю арміяй і працоўным насельніцтвам савецкага саюзу,—значэньне Асаавіяхэму ў справе антысавецкае пропаганды, што робіцца нашымі клясавымі ворагамі за мяжою, у справе ліхаманкавае падрыхтоўкі капіталістых да вайны з намі—робіцца асабліва пукатым, асабліва кідаецца ў вочы.

Сапраўды, будучая вайна будзе ня толькі вайною рэгулярных армій паміж сабою, як-бы добры ня былі ўзброены гэтыя арміі. Будучая вайна будзе перш за ўсё клясаваю вайною. Па сутнасьці справы там ня будзе ніякага тылу, а ўсе пласты насельніцтва на абодвы бакі барыкад—хацець-муць яны ці не хацецьмуць—будуць уцягнены ў гэту апошнюю сьмяротэльную схватку паміж соцыялізмам і капіталізмам, паміж эксплёатаванымі і эксплёататарамі.

Вось таму ўжо цяпер загадзя да пачатку ваенных дзей, якія можа ўжо і не за гарамі—трэба ўзяцца за самую рашучую ваенізацыю насельніцтва. Трэба ўжо цяпер навучыць усіх працоўных савецкае краіны метка страляць з вінтоўкі, добра весці процігазавую абарону, умець добра будаваць перашкоды і барыкады. У гэтым і ляжыць галоўная задача Асаавіяхэму—задача, для найлепшага выкананьня якое Асаавіяхэм павінен сустрэць ад нас усёбаковае падтрыманьне.

* * *

Што-ж зроблена ў гэтай справе менскім акрсаветам Асаавіяхэму? Ці справяцца яны са сваёю задачаю па ваенізацыі працоўнага насельніцтва? Ці сустракае ён у гэтых адносінах неабходнае яму таварыскае падтрыманьне з нашага боку?

Менскім акрсаветам Асаавіяхэму, ня гледзячы на шэраг недахопаў, у гэтай галіне праведзена ўсё-ж вялікая работа. Пасьля шэрагу няўдач Менскаму акрсавету Асаавіяхэму ўдалося абучыць і выпусьціць атрад добраахвотнікаў у колькасьці 75 чалавек. Гэты атрад добраахвотна прайшоў вялікі курс ваеннае падрыхтоўкі. Добраахвотнікі навучыліся добра страляць з вінтоўкі і ўладаць процігазам. Цяпер Менакрсавет Асаавіяхэму організаваў другі атрад добраахвотнікаў у колькасьці ўжо трохсот чалавек, у лік якіх уваходзіць шмат жанчын і які таксама ўжо ўзяўся за работу. Гэты атрад забясьпечаны добрым кадрам інструктароў і камандзіраў.

Ня дрэнную работу праводзіў Менакрсавет Асаавіяхэму і сярод жактаўскага працоўнага насельніцтва беларускае сталіцы. У першых чыслах лютага ў ЖАКТ'е № 2 адбыўся выпуск гуртка па вывучэньні процігазавае абароны ў колькасьці 28 чалавек. Цяпер у тым-жа ЖАКТ'е працуе новы гурток, які налічвае ў сваіх шэрагах ужо каля 70 чалавек. У ЖАКТ'е № 10 васьмога сакавіка адбыўся выпуск гуртка хатніх гаспадынь у колькасьці 250 чалавек. Хатнія гаспадыні, пад кіраўніцтвам інструктароў, таксама досыць добра аўладалі вінтоўкаю і процігазаваю абаронаю. Цяпер Менакрсавет Асаавіяхэму распачаў організацыю гурткоў і ў іншых ЖАКТ'ах. Гэтымі гурткамі ён спадзяецца ў самы бліжэйшы час ахапіць каля 400 працоўных жанчын—работніц і хатніх гаспадынь.

Але што тычыцца да дапамогі Асаавіяхэму ў яго важнай справе ваенізацыі з боку насельніцтва—то тут справа ў нас ня вельмі добра. Некаторыя ЖАКТ'ы, як № 14, 21, і 23, іхныя культкамісіі, іхныя ячэйкі Асаавіяхэму не памагаюць акрсавету Асаавіяхэма ў яго рабоце, а часта нават перашкаджаюць яму.

Гэтага трэба як мага хутчэй пазбавіцца. Асаавіяхэм павінен сустракаць падтрыманьне з боку ўсіх працоўных краіны, з боку ўсіх нашых організацый.

Вораг ня дрэмле. Ён рыхтуецца да вайны на краіну саветаў. Быць на варце!—загадвае нам наш доўг пролетараў і рэволюцыянэраў.

# БУДУЕМ соцыялістычную гаспадарку



Пяцігодка вымагае ад нашае прамысловасьці новых машын, варштатаў, інструмантаў. У Ленінградзе будуецца завод штучнага шліфаваньня матэрыялаў. На здымку: агульны выгляд будынку карбарундавай майстэрні.



Першы ў сьвеце завод на вырабу камфары з ельніцавай алівы, пабудаваны на Парахавых, пушчаны ў ход 1 сакавіка 1930 г. Продукцыйнасьць заводу — 400 тон у год. Гэты завод пазбавіць нас ад патрэбнасьці ўвозіць замежную камфару. На здымку: Прыёмны рэзэрвуар для ельніцавай алівы.



Тэхнічна адсталая старая наша прамысловасьць вымушана была ўсё ўвозіць з-за мяжы. СССР стаўшы на шлях вызваленьня ад экономічнай залежнасьці ад капіталістычнага сьвету, будуе цэлы шэраг новых заводаў, якія будуць вырабляць інструманты і машыны, якіх ніколі ў нас ня было. Толькі такім спосабам мы можам упэўнена і пасьпяхова будаваць соцыялізм ва ўмовах капіталістычнага абкружэньня. Волаты трактарных заводаў, аўтомобільных, хэмічных, стальных і інш. вымагаюць багата шліфаваных матэрыялаў, якія дагэтуль у нас апрацоўваліся саматужным спосабам. Гэты недахват зьнішчыць пачаты пабудовай Ленінградзкі завод, які штучна будзе шліфаваць матэрыялы. На здымку: Унутраны выгляд карбарундавай майстэрні.



Рэзэрвуар—сховішча ельніцавае алівы.



Новае трубнае будаўніцтва на Марыўпальскіх заводах імя Ільліча.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



## Пяць год Мсьціслаўскай студыі Бел. Апп'у

15 мая г. г. споўнілася пяць год працы Мсьціслаўскай студыі Беларускай Асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. За гэты тэрмін студыя дасягла значных посьпехаў і высунула шэраг маладых пісьменьнікаў—змаганцаў на фронце пролетарскай літаратуры.

Мсьціслаўская студыя—адна з старэйшых студый, заснаваных у 1925 годзе на Клімаўшчыне, якія гуртаваліся вакол існаваўшага тады часопісу „Маладняк Клімаўшчыны"—органу тутэйшай філіі.

На здымку—група студыйцаў ў часе сьвяткаваньня юбілею. У другім радзе стаяць зьлева: першы—Куляшоў, другі Таўбін, чацьверты Астапенка,—члены Бел. АПП'у, якія выхоўваліся ў студыі.

▪▪▪▪▪▪▪▪▪

## Тыраж лётарэі Авіяхіму ў Менску

У часе вайны армія ня можа думаць аб абароне кожнага дому, кожнай установы, кожнай вуліцы. Таму кожны грамадзянін павінен сам аб гэтым клапаціцца. І яшчэ: тое, што не зроблена ў мірны час, цяжка будзе зрабіць у часе вайны. Вось чаму кожны сумленны грамадзянін СССР павінен ў гуртках і камандах авіяхіму праходзіць курс ваеных навук. Авіяхім БССР мае 200.000 членаў. Гэтага мала. Наша мэта—кожны працоўны ў шэрагах авіяхіму павінен вывучаць ваенную справу!

Лётарэі авіяхіму падводзяць матар'яльную базу пад работу організацыі.





На здымку: 1) Піянэры вымаюць з колаў нумаркі білетаў, 2) Старшыня ЦС Авіяхіму т. Дрылёнак адчыняе тыраж 4-га разраду Усесаюзнай лётарэі.

# ЗА ДВА ТЫДНІ

Тэлеграфнае агенцтва Рэйтэр паведамляе:

— Нацыянальная асоцыяцыя фабрыкантаў гатовага адзеньня ў Бомбэі пастанавіла абвясьціць байкот адзеньню, што ўвозіцца з-за мяжы, на тры месяцы...

Яшчэ адна тэлеграма таго-ж самага ангельскага агенцтва:

— Гандзі сёньня ўзяўся за парушэньне салянага закону.

І ў той-жа дзень:

— Чыгуначнікі Вялікай чыгункі індыйскае паўвыспы пачалі італійскую забастоўку. Забастоўшчыкі шкодзяць руху цягнікоў. Каля Бомбэі старшыня буйнейшага ў Індыі левага саюзу тэкстыльнікаў Гірні Камгаро *) Канчалька" выступіў перад забастоўшчыкамі, заклікаючы іх да сплатненьня. Прамоўца арыштаваны. У адказ на гэта забастоўшчыкі захапілі некалькі чыгуначных памяшканьняў. Паліцыя страляла па дэманстрацыях забастоўшчыкаў. Сем чалавек паранена, двое з іх пры сьмерці. Арышты робяцца і яшчэ.

Тры паведамленьні ў адзін дзень з Індыі. З вялікаю напружанасьцю старая ангельская буржуазія сачыць за тым, як разгортваюцца падзеі ў гэтай колёніі брытанскае імпэрыі. Буржуазія мае ўсе падставы да таго, каб быць усхваляванай.

Што-ж адбываецца ў багацейшай краіне колёніяльнага Усходу?

У пэрыод імпэрыялістычнае вайны, калі прамысловасьць усяе Эўропы і Амэрыкі рабіла на ваенныя патрэбы, у Індыі пачала моцна разьвівацца мясцовая буйная прамысловасьць. Задыміліся дымары вялізных мэталюргічных, тэкстыльных і іншых прадпрыемстваў. Маладая індыйская буржуазія пачала моцна конкураваць з старымі ангельскімі Манчэстэрам і Ланкашырам. Рэзка стыкнуліся інтарэсы тамтэйшае і ангельскае буржуазіі. Адначасова павялічыліся кадры індыйскага пролетарыяту, якія па меры росту пачалі выстаўляць усё большыя і большыя запатрабаваньні. На чале навейшых індыйскіх тэкстыляй, ня гледзячы на супярэчкі рэформістых, стала організацыя „Гірні Камгар".

Індыйская буржуазія, напалоханая рэволюцыйнымі зрухамі сярод рабочых мас, ужыла захады, каб дамовіцца з ангельскай буржуазіяй пра задушэньне руху. Супярэчнасьці абвастраліся: даводзілася і конкураваць і дамаўляцца...

Ва ўсеіндыйскім конгрэсе, дзе ёсьць прадстаўніцтва ад розных нацыянальных груповак, ішла доўгая барацьба за далейшы кірунак політыкі. Апошні конгрэс, у якім большасьць належыла да буржуазных груповак тыпу Гандзі, пад уплывам мас загаварылі ўжо не пра наданьне Індыі правоў самакіраванага дамініёна, а пра поўную дзяржаўную самастойнасьць. Ня з вельмі лёгкім сэрцам пайшла на гэтае патрабаваньне індыйская дробная буржуазія. Працоўныя масы, якія церпяць падвойны прыгнёт, стогнуць пад ударамі двух бічоў—ангельскае і „свае" буржуазіі—патрабавалі ад усеіндыйскага конгрэсу рашучых дзеяньняў.

Але адна справа—выносіць рашэньні, а другая ажыцьцяўляць іх. Дробнабуржуазны ўсеіндыйскі конгрэс сабатаваў свае ўласныя рашэньні, і не апэляваў да мас, якія гатовы былі змагацца з ангельскім імпэрыялізмам.

У той час, як на барацьбу падымаецца прамысловы пролетарыят і шматмільённыя масы сялянства, у той час, як рэволюцыйная хваля бесьперапынна нарастае—індыйская буржуазія ўжывае ўсе захады, каб затармазіць крокі рэволюцыі. На сцэну выходзіць „непраціўленец" Гандзі. Гандзі прапаведуе ідэю „грамадзянскага непадпарадкаваньня", ён выступае супроць закону пра саляную монополію і за байкот ангельскіх тавараў. Гэты байкот ідзе, вядома, на руку індыйскім прадпрыемцам, што змагаюцца за выцісьненьне ангельскіх тавараў. Што-ж тычыцца да лёзунгаў парушэньня салянае монополіі, дык і тут Гандзі ішоў па лініі найменшага супраціўленьня, імкнуўся адбіць масы ад рэволюцыйных выступленьняў.

Рух мас хутка перарастаў патрабаваньні Гандзі. Лёзунг пасыўнага супраціўленьня, г. зн бяз ужываньня гвалту ў адносінах да ўзброеных ангельскіх імпэрыялістых, быў сапраўдным выратункам перад небясьпекаю рэволюцыйных выступленьняў. Гандзі сапраўды рабіў паслугі найзласьнейшым ворагам працоўных Індыі. Дайшло да таго, што Гандзі нават прасіў лейборыстыцкі ўрад — ня выводзіць ангельскіх войск з Індыі. Гэтым Гандзі зрабіў вялікі удар свайму прэстыжу, паказаўшы працоўным, што ён баіцца рэволюцыі, а ня брытанскага ўзброенага кулака.

Ангельскае ваеннае камандаваньне доўга не чапала Гандзі. Ня гледзячы на парушэньне салянае монополіі, ня гледзячы на шматлікія выступленьні, ён на працягу доўгага часу заставаўся на волі.

І толькі таму, што рэволюцыйныя масы пайшлі шмат далей Гандзевых заклікаў, толькі таму, што рух усюды перарастаў у жорсткія клясавыя бойкі, урад арыштаваў Гандзі. Ён больш ужо ня мог тармазіць рэволюцыйныя падзеі.

Зямля гарыць пад нагамі ангельскіх імпэрыялістых. Індыя ахоплена паўстаньнямі. У Бомбэі, Дэлі, Шалапуры, Пэшавары, Калькуце, Мадрасе, Лагоры масы выступілі на вуліцы. Шалапур і Пэшавар былі ва ўладзе паўстанцаў. У раёнах Бомбэю і Калькуты са зброяю ў руках выступілі сяляне. У шэрагу месц тамтэйшыя войскі перашлі на бок паўстанцаў, забастовачны рух шырыцца, тэкстыльныя прадпрыемствы Бомбэі, Калькуты, чыгуначныя майстэрні і іншыя прадпрыемствы спынілі працу.

Урад ужыў свае захады: усе буйныя гарады і ахопленыя рухам раёны—заняты войскамі. Як і ў момант рэволюцыйнага пад'ёму у Кітаі, эўропэйцы ў Бомбэі, у Калькуце і іншых гарадох організавалі ўласныя ўзброеныя атрады. Войскі занялі ўсе стратэгічныя пункты, па вуліцах патрулююць аўтомобілі, зьяўляюцца самалёты нагружаныя бомбамі.

У адказ на заклік „далоў брытанскі імпэрыялізм, няхай жыве рэволюцыя"—рабочы ўрад Макдональда рыхтуе сілы для ўдару. Цяпер-жа рэволюцыйны друк Індыі ўжо задушаны, а рабочыя павадыры кінуты ў турмы.

У той час, як ангельская комуністычная партыя вядзе кампанію за дапамогу індыйскім рэволюцыянэрам і рашуча патрабуе поўнае незалежнасьці для Індыі і вываду адтуль ангельскіх войск,—партыя лейборыстых усяляк спрабуе дапамагчы ўраду Макдональда зьняць з яго адказнасьць за крывавыя падзеі, што адбываюцца ў Індыі.

Орган ангельскай компартыі, газ. „Дэйлі Уоркер" піша: „Падзеі разьвіваюцца ў бок усеагульнай забастоўкі. Задача індыйскай компартыі—організаваць сілы рабочых і сялян для будучых вялізных боек пад лёзунгам выгнаньня брытанскіх імпэрыялістых з дапамогаю рэволюцыйных паўстаньняў рабочае клясы і сялянства".

Надыходзяць буйныя гістарычныя бойкі. Зусім зразумела, што рана ці позна, але перамога будзе належаць індыйскаму пролетарыяту і сялянству. Маладая комуністычная партыя Індыі стаіць перад вялізнаю задачаю.

У канцы леташняга году, каб супакоіць індыйскую буржуазію, віцэ-кароль Індыі, лорд Ірвін, заявіў, што ангельскі ўрад сваім канчатковым пунктам законадаўчых рэформ—мяркуе даць Індыі права дамініёну. Зусім зразумела, што ад заявы лорда Ірвіна да зьдзейсьненьня „канчатковага пункту" ангельскага ўраду вельмі далёка. Аднак гэтыя словы, што да нічога не абавязваюць, выклікалі вялікае нездаваленьне ў лягеры ангельскіх імпэрыялістых.

Ніякіх размоў пра дамініён!—такі быў адказ ангельскае буржуазіі: — „Ператварэньне Індыі ў дамініён,—было ў адказе Ірвіна,—уяўляе сабою ня меньш далёкую мэту, чым, напрыклад, утварэньне сусьветнае фэдэрацыі народаў. На працягу бліжэйшага стагодзьдзя гэта ня толькі немагчыма, але і нямысьліма".

Уторачы цьвёрдалобым і прэм'ер „рабочага" ўраду Макдональд катэгорычна заяўляе, што пра зьмену сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня ў Індыі ня можа быць і гаворкі.

З часу выступленьня лёрда Ірвіна рэволюцыйная хваля ў Індыі паднялася высока, а гэта ўжо пагражае змыць тыя ўстоі, якія цьвёрдалобыя і іхнія падгалоскі з „рабочае" партыі лічаць непарушнымі. Але ангельскі імпэрыялізм ня хоча і ня можа прызнаць сябе пераможаным. Ён лічыць, што Індыя можа быць толькі ангельскаю колёніяй.

Прадстаяць цяжкія гістарычныя бойкі, з якіх рана ці позна індыйскі пролетарыят і сялянства выйдуць пераможцамі.

Да гэтых будучых боек рыхтуецца комуністычная партыя Індыі, якая згуртоўвае вакол сябе ўсе рэволюцыйныя сілы краіны.

*) Гірні Камгар—Чырвоны сьцяг.

# ПЕРШАМАЙ ЗА МЯЖОЙ




У першамайскіх дэмонстрацыях у Лёндоне ўдзельнічалі беспрацоўныя, якія ў пачатку красавіка вышлі галодным паходам у Лёндон, каб зьявіцца туды на майскую дэмонстрацыю. „Рабочы“ ўрад адмовіўся прыняць дэлегацыю галоднага паходу. **На здымку:** група Брайдфорцкіх беспрацоўных з лёзунгам: „Ганьба рабочаму ўраду, які спрые пашырэньню беспрацоўя“.




Нямецкі ўрад сёлета не адважыўся забараніць першамайскую дэмонстрацыю. Дзесяткі тысяч бэрлінскіх рабочых дэманстравалі пад сьцягамі компартыі. Соцыял-дэмократычная дэмонстрацыя сабрала ў чатыры разы менш народу. Ніводзін буйны завод не ўдзельнічаў у колёнах соцыял-фашыстых.
**На здымку:** Замест лёзунгаў, удзельнікі комуністычнай дэмонстрацыі нясуць імёны ахвяр Першага Мая 1929 г.




Комсамол Нямеччыны зьяўляецца надзейным памоцнікам партыі. Усенямецкі зьлёт комсамолу ў Лейпцыгу паказаў загартаванасьць і рашучасьць комсамолу да барацьбы за перамогу пролетарскай рэволюцыі, да барацьбы за дыктатуру пролетарыяту. **На здымку:** Аўтомобіль комсамолу Нямеччыны ў дзень выбараў у гарадзкое самакіраўніцтва Франкфурту агітуе ў рабочых кварталах за комуністычны сьпіс.




Ва ўсіх буйнейшых гарадох Нямеччыны пролетарыят вядзе зацятую барацьбу за права на вуліцу. Зьяўляючыся буйным пролетарскім цэнтрам, які адыгрывае вялікую ролю ў комуністычным руху ў Нямеччыне, Гамбург сёлета ў першамайскія дні злучыў пад сьцягі комуністычнай партыі велізарныя масы пролетарыяў. **На здымку:** Пролетарыят Гамбургу на першамайскай дэмонстрацыі. На плякаце: „Вуліца вольная... Чырвоныя атрады маршыруюць“.



Сотні і тысячы адважных рэволюцыянэраў кінуты соцыял-фашыстымі, а зараз „урадам голаду“ Нямеччыны за краты. Кіпцюры голаду ўсё больш сьціскаюць рабочыя масы Нямеччыны, якія штодзень тысячамі выкідваюцца на вуліцы. Расьце беспрацоўе. Расьце нэндза. МОПР—чырвоная дапамога ўжывае героічныя захады, каб ратаваць ад галоднай сьмерці тых рэволюцыянэраў, што сядзяць у астрогах, а таксама і рабочых-беспрацоўных. **На здымку:** Інсцэніроўка Чырвонай Дапамогі ў першамайскія дні на вуліцах Бэрліну.




Разьюшаная рэакцыя хоча ў крыві патапіць рэволюцыйную барацьбу пролетарыяту. Расстрэльваюць не толькі дарослых рабочых, але нават і малых дзяцей за тое, што яны просяць хлеба. Чэскія жандары стралялі ў дэмонстрацыю піонэраў: Роза Марцінец, 13 год, атрымала сьмяротную рану ў жывот; Марыя Дарлова, 16 год, прастрэлена рука; Ірына Брайхова, 14 год, прастрэлена нага. У Нью-Ёрку, Гары Айзман, 14 год, кіраўнік піонэрскай організацыі, засуджаны да астрогу на 5 год. У адказ на тэрор яшчэ больш расьце комуністычны дзіцячы рух.
**На здымку:** Група венскіх піонэраў, з лёзунгам: „Ідзеце ў рады юных піонэраў“.

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Анры Барбюс—Розныя факты.** Пераклад з французскай мовы Н. Беляко̆ўскай. Менск, БДВ 1929 г. 204 стар., ц. 1 р. 30 к.




Сярод навінак мастацкае літаратуры, якія зьявіліся апошнімі часамі на рынку, варта аднатаваць кніжкі А. Барбюса.

Вядомы францускі рэволюцыйны пісьменьнік, аўтар выдатнейшага твору супроць імпэрыялістычнай вайны „У вагні", у гэтай кніжцы дае нам збор разных фактаў з практыкі імпэрыялістычнай вайны і белага тэрору.

Выкарыстоўваючы конкрэтны матэрыял, выходзячы з гэтага матэрыялу, распрацоўваючы гэты матырыял, які ўзяты з непасрэднай жывой рачаіснасьці ён дае высока-мастацкія, агітацыйна-ўзьдзейнічаючы апавяданьні.

Ён ненавідзіць і б'е адно, любіць і абараняе другое. Мастацкая об'ектыўнасьць рэволюцыянэра, якая становіцца сродкам у шэрагу і ў шэрагу іншых сродкаў эмоцыянальнага заражэньня чытача.

Апавяданьні робяць надзвычайна моцнае ўражаньне на чытача. Яны выклікаюць у яго пачуцьцё абурэньня і ненавісьці супроць таго ладу, які дае магчымасьць зьяўляцца такім фактам.

Прыходзіцца толькі вітаць зьяўленьне гэтай кніжкі. Неабходна нашаму БДВ працягваць далей карысную справу азнаямленьня чытача з лепшымі творамі заходня-эўропэйскай рэволюцыйнай літаратуры.

---

**С. Знаёмы. Відагоршчы** (падарожныя нататкі ўдзельніка чырвонаармейскага аграпаходу) БДВ Менск, 1930 г., цана 12 кап.

С. ЗНАЁМЫ

ВІДАГОРШЧЫ

У сваіх падарожных нататках т. С. Знаёмы апавядае аб 2-х днёх напружнай працы па колектывізацыі вёскі, якую праводзілі чырвонаармейцы №-скай стралковай дывізі ў Астрашыцка-Гарадзецкім раёне Менскай акругі.

Ня замазваючы прыгожым слоўцам цяжкасьцяй колектывізацыі, абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы, т. С. Знаёмы праўдзіва, мастацкай мовай дае эскізныя малюнкі разгорнутай барацьбы за колектывы.

У кніжцы расказваецца аб тым, як у Папярнянскім с-с. (шмат заможнікаў) мясцовая ўлада ў асобе сельсавета апынулася ў абдымках кулакоў і былых памешчыц Макоўскіх.

Шчыра расказваецца аб саўгасе Вішнёўка, які, змогшы перамагчы горы цяжкасьцяй, стаў прыкладным саўгасам у раёне.

У кніжцы падаюцца цікавыя факты дзейнасьці кулацтва, папоў, рабінаў па зрыву колектывізацыі.

т. С. Знаёмы расказвае, як чырвонаармейцы дапамагалі наладзіць працу ў комсамольскай комуне ў Відагоршчах, дзе, дзякуючы нядбайнасьці кіраўнікоў комуны, комуна ледзь не развалілася.

Кніжку т. С. Знаёмага мы раім прачытаць кожнаму, каго цікавіць і хвалюе аграмадны ўздым колектывізацыі на вёсцы.

Мова кніжкі прыгожая, лёгкая і чыстая.

---

**Вамба—Хвосьцік** (апавяданьне з жыцьця мурашак) БДВ, Менск, 1929 г., 116 стар., цана 65 кап.




У гэтым апавяданьні расказваецца аб жыцьці мурашак. Але аўтар падае свой твор ня ў выглядзе прыродазнаўчага нарысу. Ён спрабуе ў форме сюжэтнага твору пазнаёміць дзяцей з жыцьцём розных казюлек, і ў першую чаргу—мурашак.

Хлопчык Міколка абарачаецца ў мурашку і вось у кніжцы перад чытачом праходзіць шэрагу яго прыгод. Ён прымае ўдзел у супольнай працы мурашак, войнах, абароне мурашніку ад нападу, трапляе да чмялёў, нейкі час знаходзіцца ў пчольным вульлі.

Усё гэта дае магчымасьць аўтару мастацкі пераказаць дзецям частку ведаў па прыродазнаўству. Малюнкі дапамогуць школьніку лепш пазнаёміцца з вонкавым выглядам розных казюлек, аб якіх ідзе гутарка ў кніжцы.

Кніжка, бязумоўна, з цікавасьцю будзе прачытана дзецьмі і, ня гледзячы на некаторыя недахопы, прынясе ім пэўную карысьць.

---

**Сымон Хурсік. Шляхамі навальніц** (апавяданьне), БДВ, Менск, 1930 год. 171 стар., цана 1 руб.

Тэмы для сваіх апавяданьняў С. Хурсік бярэ з вясковага жыцьця, якое ён ведае добра.




Грамадзянская вайна, польская окупацыя, пасьлярэволюцыйная вёска, жыцьцё батракоўды рабочых на вёсцы („Пільнікі") складаюць зьмест гэтага зборніка.

Адбіцьцё жыцьця ў яго сапраўдным быцьці, афармленьне элемэнтаў кляса-пролетарскай ідэолёгіі, параўнаўча добрая распрацоўка сюжэту, сакавітая народная мова—вось што характарызуе другі зборнік апавяданьняў маладога прозаіка.

---

**Болеслаў Прус. Міхалка** (апавяданьне) „Бібліотэка школьніка" БДВ, Менск, 1930 г., 34 стар., цана 25 кап.

Апавяданьне вядомага польскага пісьменьніка Б. Пруса закранае пэрыод бурнага росту польскага капіталізму ў канцы мінулага стагодзьдзя. Міхалка, прадстаўнік тэй часткі сялянства, якая прымушана была ісьці ў горад на заработкі. Аўтар яскрава малюе цяжкі лёс Міхалкі і дзяўчыны-работніцы, якая разам з ім працавала на пабудове.




Прыгнёт капіталістычнага ладу надзвычайна добра паказаны ў гэтым творы. Ня гледзячы на тое, што „Міхалка" выданы ў „бібліотэцы школьніка", ён з цікавасьцю будзе прачытаны і дарослым чытачом.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 год

2-гі год выданьня

НА АДЗІНУЮ ЎСЕБЕЛАРУСКУЮ
2-ДЭКАДНУЮ ІЛЮСТРАВАНУЮ
КООПЭРАЦЫЙНУЮ ЧАСОПІСЬ

2-гі год выданьня

# КООПЭРАЦЫЯ БССР

**КООПЭРАЦЫЯ БССР** з красавіка м-ца г. г. рэорганізавана ў орган Белкоопсаюзу і Белсампрамсаюзу і разлічана на масавага нізавога чытача.

**КООПЭРАЦЫЯ БССР** шырока інформуе сваіх чытачоў аб усіх навінах і зьменах у коопэрацыйным жыцьці, друкуе дыскусійныя артыкулы, асьвятляе на сваіх стар. кампаніі, якія праводзяцца.

**КООПЭРАЦЫЯ БССР** шырока асьвятляе жыцьцё на мясцох, багата ілюструецца фотографіямі, малюнкамі.

**КООПЭРАЦЫЯ БССР** з часу рэорганізаваньня мае „Літаратурны куток“, дзе зьмяшчаюцца нарысы, апавяданьні, вершы з коопэрацыйнага жыцьця, дае водгукі на новыя, карысныя для коопэрацыі і сельскае гаспадаркі кніжкі.

**КОЖНЫ КООПЭРАТЫЎ, КОЖНАЯ КРАМА, ХАТА-ЧЫТАЛЬНЯ, КОЖНЫ КООПЭРАЦЫЙНЫ ПРАЦАУНІК, ПАЙШЧЫК АКТЫВІСТЫ ПАВІННЫ ВЫПІСВАЦЬ І ЧЫТАЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ „КООПЭРАЦЫЯ БССР“.**

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ЧАСОПІСЬ ЗЬНІЖАНА

### УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | |
|---|---|
| На 2 м-цы (3 нумары) . . | — 60 к. |
| На 4 м-цы (6 нумараў) . | 1 р. 10 к. |
| На 6 м-цаў (9 нумараў) . | 1 р. 60 к. |
| На 1 год (18 нумараў) . | 3 р. — к. |

ПАДПІСКА НА ЧАСОПІСЬ „КООПЭРАЦЫЯ БССР“ ПРЫМАЕЦЦА ва ўсіх коопэрацыйных організацыях, усімі інструктарамі, а таксама ўсімі агентамі Бел. Дзярж. Выдавецтва і ў рэд. час. „КООПЭРАЦЫЯ БССР“.

**ЯШЧЭ НЯ ПОЗНА ПАДПІСАЦЦА з № 1**

РЭДАКЦЫЯ: г. Менск, Савецкая, 43, Белкоопсаюз. Бягучы рахунак у Дзяржбанку № 797

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



| 24 НУМАРЫ НА ГОД | ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ<br>Адказны рэдактар М. ЧАРОТ<br>Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79. | 24 НУМАРЫ НА ГОД |
|---|---|---|

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё социялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-цы | | ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 р. | — | 1 р. | 50 к. | — | 75 к. | 15 К. |

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе ліст носцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.



Час. „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Правда", чыгуначных і пашт. кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

Менск, друк. БДВ, зак. 767. Галоўлітбел № 1031. У ліку 8.000 экз.